 

Cena 60 gr.

NIWA
Tygodnik Z.G. Białoruskiego
Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego

# Ніва

Цана 60 гр.

Тыднёвік
Галоўнага Праўлення
Беларускага грам.-культ. таварыства

№ 34 (130) БЕЛАСТОК, 24 ЖНІЎНЯ 1958 года ГОД III

## Пабудуем Дом-помнік Кастусю Каліноўскаму

Набліжаецца Тысячагоддзе Польскай Дзяржавы. Вялікая гэта дата! Яна будзе ўрачыста адзначацца ва ўсёй краіне.

На працягу амаль усёй гісторыі польскага народа назіраем моцныя праяўленні творчага беларуска - польскага сяброўства і ўсебаковага супрацоўніцтва. Успомнім вядомы ўсёй Славяншчыне Грунвальд, дзе супольна з палякамі і іншымі народамі і беларускія палкі нанеслі рашаючы ўдар па крыжацкіх захопніках. Беларусы пралілі кроў за супольную справу ўсіх народаў, за справу польскага народа перш за ўсё.

Калі ў XVII ст. на Беларусі і Украіне выбухлі паўстанні супроць прыгнёту польскіх паноў, то беларускіх і ўкраінскіх свабадалюбівых паўстанцаў падтрымліваў польскі працоўны люд. Тысячы простых польскіх сялян змагалася ў радах паўстанцаў. Выбухалі паўстанні і ў Польшчы, як пратэст супроць прыгнёту працоўнага народа панамі - каланізатарамі, якія аднолькава прыгняталі польскага, беларускага і ўкраінскага селяніна і бязлітасна выкарыстоўвалі яго.

Успомнім светлую постаць славутага Кастуся Каліноўскага. Студзеньскае паўстанне 1863 года перш выбухла на Беларусі, пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, і на Беларусі найдаўжэй яно пратрымалася, дзякуючы іменна Каліноўскаму, якога падтрымліваў беларускі люд.

Шляхецкія яго кіраўнікі, кіруючыся імперыяльнай палітыкай, імкнуліся да аднаўлення Польшчы ў межах 1772 года. Кастусь Каліноўскі выступіў супроць гэткай палітыкі, імкнуўся разбудзіць усеагульнае паўстанне, якое дало свабоду і незалежнасць усім народам, прыгнечаным царскай Расіяй. Погляды Каліноўскага падзялялі не толькі беларусы, але і палякі, польскія сяляне. Пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ваявалі ўсе супольна за супольную справу. Нездарма Кастуся Каліноўскага завуць героем двух братніх народаў: беларускага і польскага.

Камітэт па адзначэнню 120-годдзя з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага, які існуе ў Беластоку, разгортвае сваю дзейнасць. Пастаноўлена пабудаваць Дом-помнік Кастусю Каліноўскаму, дзе знайшлі б сабе адпаведныя памяшканні гурткі мастацкай самадзейнасці, гурткі народнай творчасці і Беларускі хор і тэатр. Зразумела, што будуць тут перахоўвацца рэдкія памяткі і дакументы аб Каліноўскім.

Камітэт звяртаецца да ўсяго грамадства Беласточчыны і краіны з просьбай складаць добраахвотныя грашовыя ахвяры.

Галоўнае Праўленне Беларускага грамадска - культурнага таварыства ўжо выгаспадаравала і пераслала 10 тыс. злотых на рахунак Камітэта пабудовы помніка Кастусю Каліноўскаму. Неабходна таксама, каб усе аддзелы нашага таварыства прыступілі да збірання дабраахвотных грашовых складчын.

Справа пабудовы Дома - помніка Кастусю Каліноўскаму — гэта справа ўсяго грамадства нашай краіны.

Супольнымі сіламі пабудуем Дом - помнік Кастусю Каліноўскаму!

## Спатканне М.С. Хрушчова і Мао-Тзэ-дуна



*Пекін.. 3 жніўня 1958 г. Падпісана Камюніке аб спатканні М. С. Хрушчова і Мао Цзэ - дуна.*



*У час сяброўскай гутаркі. фото—М. Домагацкіх і А. Кожына*

Гэтая гістарычная сустрэча прадэманстравала непарушнае адзінства і брацкае еднанне двух вялікіх народаў і ўсяго сацыялістычнага лагера ў барацьбе за мір, за адхіленне небяспекі новай вайны. Камюніке з'явілася сур'ёзнай перасцярогай імперыялістам, якія імкнуцца паставіць чалавецтва на грані новай ваеннай катастрофы.

Людзі ўсяго свету, якім дарагі мір, сардэчна вітаюць і аднадушна адабраюць вынікі сустрэчы паміж М. С. Хрушчовым і Мао Цзэ-дунам, якія бачаць у гэтым пэўную гарантыю таго, што магутныя сілы міру перамогуць сілы агрэсіі і вайны.

## «Проба агнём» Крапівы на сцэне ў Гарадку

Драматычны гурток у Гарадку падрыхтаваў новую п'есу К. Крапівы «Проба агнём». У мінулую нядзелю гарадоцкі драмгурток пад кіраўніцтвам Н. Мушынскай даў у кіно «Звязда» першую пастаноўку гэтай п'есы. П'есу глядзела каля 300 чалавек.

На пастаноўцы прысутнічаў старшыня Гал. Праўлення БГ-КТ Ул. Станкевіч.

## 25 жніўня выступленне Беларускага мастацкага калектыву песні і танца

25 жніўня (панядзелак) у беластоцкім тэатры імя А. Венгеркі выступіць Беларускі мастацкі калектыў песні і танца. Праграма ўзбагачана новымі беларускімі, польскімі рускімі і ўкраінскімі песнямі і танцамі, якія падрыхтаваў калектыў да паездкі ў БССР.

Мастацкі кіраўнік Г. Зюлкоўская.

Білеты ў цане 10, 8 і 5 злотых прадаюцца ў касе тэатра у Галоўным Праўленні БГ-КТ Беласток вул. Маніфеста Ліпчёвага 25, і ў рэдакцыі «Нівы».

## ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА БГ-КТ

15 жніўня г. г. адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства. На пасяджэнні абмеркаван і зацверджан план працы на IV квартал г. г. Абмеркаван таксама бюджэт Таварыства на будучы год. Бюджэт плануецца значна пашырыць што дасць магчымасць шырэй разгарнуць нашу культурную дзейнасць.

Прэзідыум зацвердзіў камісіі Таварыства, якія былі прапанаваны на папярэднім пасяджэнні. На чале культурнай камісіі стаў Піліп Кізевіч, асветную камісію ўзначальвае Васіль Літвінчук, эканамічную — Кастусь Майсеня, і выдавецкую — Георгі Валкавыцкі.

Прэзідыум пастанавіў перанесці тэрмін пленума ГП БГ-КТ з 15-га верасня, як было раней прапанавана, на 27 і 28 верасня г. г.

## У дапамогу мастацкім калектывам

У мінулым тыдні вышаў з друку сцэнічны жарт Янк. Купалы «Прымакі» ў брашураваным выданні. Цана 1 зл.

Выдавецкі аддзел БГ-КТ, выдаючы «Прымакі», меў на думцы дапамагчы нашым самадзейным вясковым мастацкім калектывам у павелічэнні сцэнічнага рэпертуару.

Гэты сцэнічны твор дастасаваны да нашых вясковых умоў.

Чытачы, якіх зацікавіць гэтае выданне, могуць яго заказаць у Выдавецкім аддзеле БГ-КТ.

Адначасова паведамляем, што ў Выдавецкім Аддзеле БГ-КТ можна атрымаць і школьныя падручнікі для беларускіх школ.

 

